www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 14 (4163)

17 лютага 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
в Twitter
www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook
www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte
www.vk.com/nvonlineinfo

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

## «Не ведаю, колькі чалавек адарвецца ад канапы...»

*Палітык распавёў “Народнай Волі”, на якую колькасць людзей разлічваюць арганізатары Маршу абураных беларусаў.*

Учора быў агучаны план правядзення Маршу абураных беларусаў, які пачнецца сёння, 17 лютага, у 18.00 на Кастрычніцкай плошчы Мінска. Стала вядома, што спачатку адбудзецца народны сход, *“на якім будуць прыняты патрабаванні да ўлады і вызначаны тэрміны іх выканання”*.

Плануецца, што сам марш пройдзе па галоўным праспекце сталіцы да будынка Міністэрства па падатках і зборах, дзе ўдзельнікі акцыі выкажуць стаўленне да падатку на беспрацоўных.

**– Ці шматлюднай будзе акцыя?** – пацікавіўся я ў аднаго з арганізатараў мерапрыемства **Уладзіміра НЯКЛЯЕВА.**

– Дакладна пра гэта вам ніхто не скажа, але з улікам таго, што на акцыю запрошаны новыя сілы і новыя людзі, плануем на большую колькасць удзельнікаў, чым звычайна, прыходзілі. Ведаю, што многія хочуць прыехаць на марш нават з рэгіёнаў.

**– Некаторыя аптымісты сцвярджаюць, што прыйдзе шмат людзей, бо гэта “бачна па рэакцыі людзей у сацыяльных сетках”...**

– Можа, і так, але я ўжо развучыўся давяраць актыўнасці наведвальнікаў гэтых самых сетак. Бо многія пазмагаюцца ў віртуальнай прасторы, напішуць, якія яны незадаволеныя, размалююць гэтую ўладу ў цёмных колерах – і лічаць, што такім чынам ужо выканалі свой грамадзянскі абавязак. Яны ўжо паведамілі свету, што ім патрэбны перамены. Таму я на гэтую публіку моцна не разлічваю. А разлічваю на актыўнасць тых людзей, якіх рэальна закрануў дэкрэт аб “дармаедах”, хто незадаволены падзеннем узроўню жыцця і малымі пенсіямі... Перакананы, што іх будзе значна болей, чым звычайна, але не ведаю, колькі віртуальных змагароў адарвецца ад канапы.

**– Магчыма, некаторых напалохае той факт, што акцыя несанкцыянаваная?**

– Мы ва ўсіх абласных цэнтрах таксама падавалі заяўкі на правядзенне такой жа акцыі, і нідзе марш не дазволілі. Таму які сэнс быў прасіць дазвол у Мінску, калі адказ зараней вядомы? Паставілі ў вядомасць гарадскія ўлады – і ўсё. А ўвогуле, палахлівыя баяцца і санкцыянаваных акцый, і несанкцыянаваных. А тыя, хто хоча змагацца за свае інтарэсы, нас падтрымаюць. Павінны ж людзі прыйсці да разумення, што ўсё залежыць у першую чаргу ад іх саміх.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЭМА ДНЯ



Тацццяна МАНЁНАК:

## «Беларускі бок гандлюецца...»

*Стала вядома, што Беларусь упершыню набыла партыю нафты ў Ірана.*

Як інфармуе Reuters са спасылкай на інфармаваныя крыніцы, дзяржкампанія «Беларуснафта» закупіла ў Нацыянальнай іранскай нафтавай кампаніі (NIOC) 80 тысяч тон нафты (каля 600 тысяч бараляў). Нафта была закуплена праз даччынае прадпрыемства «Беларуснафты» ў Польшчы. Мяркуецца, што груз будзе дастаўлены марскім шляхам у Адэсу або латвійскі Вентспілс, а адтуль па чыгунцы нафта будзе перапраўлена ў Беларусь.

**– Беларусь ужо рабіла спробы пастаўляць нафту з Венесуэлы, Азербайджана... Ці дадуць эканамічны эфект пастаўкі іранскай нафты?** – пытаюся ў эксперта па энергетычных пытаннях сайта Belrynok.by **Тацццяны МАНЁНАК**.

– У мінулым годзе ў Беларусь пастаўлялася азербайджанская нафта, і, як вядома, яе перапрацоўвалі практычна “ў нуль”. Ніякага прыбытку для Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода амаль не было. Ці можа стаць іранская нафта прыбытковым праектам? Гэта вялікае пытанне. Трэба разумець, што лагістыка не будзе больш таннай, хаця вядома, што Іран апошнім часам шукаў выхаду на сусветныя рынкі і крыху дэмпінгаваў цэны.

**– Менавіта зараз Расія і Беларусь дамаўляюцца па пастаўках расійскай нафты і газу ў нашу краіну на гэты год...**

– Зразумела, што перамовы ідуць няпроста, але калі бакі знойдуць паразуменне, то, паводле маіх звестак, Расійская Федэрацыя ў 2017 годзе паставіць у Беларусь 24 млн тон нафты, хаця ў першым квартале аб’ёмы будуць зменшаны. Калі канфлікт удасца зняць, то нафтавыя пастаўкі адновяцца, і ніякая альтэрнатыва не спатрэбіцца. Тым не менш мы бачым, што беларускі бок даволі жорстка гандлюецца за больш прывабныя ўмовы паставак энерганосьбітаў. Думаю, што і інфармацыя пра альтэрнатыўную іранскую нафту з’явілася якраз у патрэбны час. Расія разумее, што іх нафта для Беларусі – самая танная, але ж і расійскім нафтавым кампаніям выгадна пастаўляць нафту на беларускія перапрацоўчыя заводы. У кошт цаны на нафту закладваецца і прэмія для кампаній. Але ў любым выпадку відавочна адно – эканамічныя пытанні тут палягаюць у палітычнай плоскасці.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Февральский распад

Сто лет назад Российская империя совершила грандиозный шаг к самоликвидации: 27 февраля (по старому стилю) 1917 года всероссийская забастовка переросла в вооруженное восстание, а 2 марта император Николай II отрекся от престола от своего имени и имени цесаревича Алексея. Решение было вынужденным – о нем просили практически все командующие фронтами российской армии. 3 марта великий князь Михаил Александрович подписал акт о непринятии престола. Так в России установилась республика.

Ничем хорошим, утверждают сегодня поклонники монархической власти, ни для страны, ни для мира это не кончилось.

Но представим себе на мгновение: Николай II не отрекается. Что дальше? Командующие фронтами продолжают исполнять свои обязанности? Возможно. Но солдаты уже не готовы воевать за царя и Отечество. Полицейских бьют их же дубинками. Дума принимает законы, в которых практически не учитывается позиция императора. И праздник непослушания главе дома Романовых (напомним, что среди высшего генералитета – дядя императора великий князь Николай Николаевич) продолжается уже в виде двоевластия.

Лучше ли это, чем безвластие?

Трагедия первой демократической революции во многом была обусловлена неготовностью элиты выйти из состояния войны. Война шла – и не только мировая. Шла война между императорским двором, претендовавшим на всевластие, и Думой, уже почувствовавшей прелесть демократии. Шла война между дворянством и крестьянством, так и не добившимся полноценной передачи земли, обещанной еще Александром II, а затем начатой – но не завершенной – правительствами Столыпина и Коковцова. Шла война между великорусскими националистами, пытавшимися любой ценой подавить национальное движение в имперских окраинах, удержать «черту оседлости», не дать развиваться национальным культурам, и носителями укрепляющегося национального самосознания. Радикализация общественных настроений шла по всем параметрам. И – во многом под влиянием большого числа вооружения, осевшего в российских городах, ежедневных «похоронок», приходивших с фронтов, – люди оказались готовыми к тому, что на смену одной форме кровопролития придет другая. Кровопролитие сменит кровопролитие.

И власть оказалась не готовой отказаться от крови. Вся – за исключением человека, которого потом многие годы в учебниках истории честили «Кровавым». Он предпочел уйти.

Слишком поздно.

Его вина не в том, что при нем Россия вступила в войну. Скорее в том, что он метался между идеей императорского всевластия, на которой настаивало ближайшее окружение, включая императрицу, и пониманием того, что бремя власти становится все более и более тяжелым, почти невыносимым, а значит, ответственность перед Богом и народом нужно делить. Его вина не в том, что он начал демократические реформы, а в том, что оказался непоследовательным в их проведении.

Это в советском кино февральскую революцию изображали почти опереточно: женщины выходят на улицу с пустыми кастрюлями – а вот уже и царь в Могилеве отрекается от престола.

Увы, так не бывает. Слабая власть не в состоянии провести демократические реформы. Она в состоянии только подтолкнуть к анархии. Именно в этом урок всей трагической истории неплохого в общем-то человека, каким был венценосный любитель пострелять по воронам в царскосельском парке. Реформы нужно проводить тогда, когда власть сильная – тогда есть шанс сохранить страну и тех, как говорил поэт, кто жил в стране. Иначе всем дружно придется потом сожалеть об упущенной возможности. Если, конечно, останется время на сожаления.

Мне кажется, именно это имел в виду главный редактор «Народной Воли» Иосиф Середич, говоря о необходимости Общенационального «круглого стола».

Власть сильная – значит, у нее есть возможность предложить свой сценарий трансформации общественных отношений.

Оппозиция слабая – у нее есть возможность добиться уступок со стороны власти, не прибегая к насильственным методам борьбы с ней.

Общество нуждается в реформах – у него есть шанс их получить.

И страна сохранится.

Потому что ждать революцию – это фактически означает ждать вмешательства некоей внешней силы, под влиянием которой все перемены в стране пройдут бесконтрольно и, не дай Бог, кроваво.

Включите телевизор, друзья мои! Там уже Валерка Булгаков у Вадима Гигина обсуждает последствия Февральской революции 1917 года для белорусской государственности. Правильно – на фоне распада империи нужно было спасаться.

Может быть, самим не дожидаться распада, а начать хотя бы диалог друг с другом – пока командующие фронтами не стали бомбардировать Могилев телеграммами с просьбой об отречении? Самое время.

РЭГІЁН

## Прадпрымальнікаў у Віцебскай вобласці стала менш

*За мінулы год іх колькасць скарацілася амаль на дзве тысячы чалавек.*

Колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў на 1 студзеня 2016 года складала 23.595 чалавек. А на 1 студзеня 2017-га – 21.622 чалавекі. Такім чынам, за апошні год колькасць прадстаўнікоў малога і сярэдняга бізнесу ў Віцебскай вобласці зменшылася на 1973 чалавека.

– *Гэтыя лічбы не здзіўляюць,* – сказала «Народнай Волі» полацкая прадпрымальніца і актывістка Рэспубліканскага грамадскага аб’яднання «Перспектыва» Вольга Шарстабітава, якая з-за судовых разглядаў без работы ўжо год. – *Прадпрымальнікі сапраўды зачыняюцца. Гэтаму спрыяе ўказ №222, а таксама нізкая пакупніцкая здольнасць насельніцтва, асабліва ў рэгіёнах. Каб пазбегнуць штрафаў і канфіскацый тавараў, людзі сыходзяць з рынкаў.*

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

КАМПЕТЭНТНА

Вадзім ІОСУБ:

## «Не захоўвайце грошы пад падушкай»

*Ці будзе беларускі рубель умацоўвацца і далей? Як лепш захоўваць зберажэнні і ці мае сёння сэнс купляць валюту? Пра гэта “Народнай Волі” распавёў старшы аналітык кампаніі “Альпары” **Вадзім ІОСУБ**.*

Учора долар і еўра крыху ўмацаваліся ў адносінах да рубля, але ўвогуле ў апошні час мы назіраем бенефіс беларускай нацыянальнай валюты. Напрыклад, 15 лютага курс долара знізіўся да 1,8634 рубля. Ніжэй гэтай адзнакі амерыканская валюта не апускалася 408 дзён!

– Калі мы кажам пра ўмацаванне беларускага рубля, трэба глядзець не на асобныя валюты, а на кошык валют, – кажа эксперт. – І ў гэтым плане наш рубель расце ўжо цэлы год. Прычына тут простая – на беларускім валютным рынку прапанова перавышае попыт, бо амаль год насельніцтва выступае чыстым прадаўцом валюты. Падаюць рэальныя даходы насельніцтва, а людзі хочуць нейкім чынам падтрымліваць свой узровень жыцця. І яны робяць гэта за кошт таго, што прадаюць свае валютныя зберажэнні. Пакуль такая сітуацыя захаваецца, рубель да кошыка валют будзе ўмацоўвацца. А вось паводзіны асобных валют моцна залежаць ад знешніх фактараў. У прыватнасці, мы бачым: калі ў Расіі рубель умацоўваецца да долара і еўра, то і ў Беларусі адбываецца тое самае.

**– Атрымліваецца, што людзі, якія ў апошні час куплялі валюту, згубілі на гэтым?**

– Гледзячы якую валюту набывалі. Тыя, хто вырашыў укласці зберажэнні ў расійскія рублі, выйгралі. А пакупнікі долара і еўра насамрэч крыху згубілі. Але прагнозы на будучае рабіць досыць складана. Напрыклад, калі цэны на нафту пачнуць зніжацца, то гэта прывядзе да зніжэння расійскага і адпаведна беларускага рубля.

**– Калі сёння ў чалавека ёсць нейкія зберажэнні, што зараз больш выгадна: набываць валюту ці пакласці іх на рублёвы дэпазіт?**

– Паколькі, як я ўжо казаў, дакладна спрагназаваць будучую сітуацыю на валютным рынку немагчыма, то лепш за ўсё палову сродкаў перавесці ў долары, а палову пакласці на рублёвы дэпазіт. Нягледзячы на тое, што стаўкі па рублёвых укладах зніжаюцца, яны пакуль перавышаюць і інфляцыю, і ўзровень дэвальвацыі. А вось захоўваць грошы пад падушкай сэнсу няма.

**Алесь СІВЫ.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА

## Не та говядина?




Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

Россия временно ограничила поставки говядины сначала с двух белорусских предприятий – ОСП «Производственный комбинат» Лельчицкого райпо и ООО «Онэксимпрод», а потом и из Минской области, заподозрив нашу страну в реэкспорте мяса из Украины.

Как сообщает Россельхознадзор, в 2015 году из Беларуси в Россию ввезено свыше 132 тысяч тонн говядины, а в 2016 году этот объем составил более 153 тысяч тонн. Вместе с тем в 2016 году Беларусь увеличила ввоз данной продукции из Украины. «*При этом особо показательным является деятельность предприятия ООО «Онэксимпрод», поставки говядины которого в РФ в 2016 году и по состоянию на 22 января составили ровно тот объем, который был ввезен на это предприятие из Украины*», – отмечает российское ведомство.

Белорусскую сторону такое решение россиян возмутило.

«*Как это* (ограничение поставок говядины из Минской области. – **Ред.**) *понимать? Это что, выпад какой-то? Положите нам на стол факты: вот говядина, она плохая... И мы немедленно будем перед вами оправдываться, искать причины. До сих пор не понимаем. А Минская область – это ж полстраны*», – такой была реакция на инцидент Александра Лукашенко.

Позже в Министерстве сельского хозяйства и продовольствия Беларуси заявили, что запрещенная к поставкам в Россию говядина из Минской области «*перерабатывается и остается в Беларуси*».

Какова вероятность восстановления экспорта говядины из Беларуси в Россию, не сообщается. В Минсельхозпроде заявляют, что ведутся переговоры с Россельхознадзором.

